Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.
Перамена адрэса 30 грошы.
Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош, і на 4 стр. 15 гр., за радок пятыту ў 1 шп

№ 34. Вільня, Субота, 16-га траўня 1925 г. Год I.

## Беларусь у будучай вайне.

У пачатку красавіка с. г. польскі ваенны міністар ген. Сікорскі надрукаваў у журнале „Tygodnik Ilustrowany“ стацьцю пад загалоўкам: „Kresy a mocarstwowe stanowisko Polski“, у якой вызначае роль Беларусі ў будучай вайне між Польшчай і яе ўсходнімі суседзямі.

„Гэта—піша ген. Сікорскі аб Беларускіх і Украінскіх землях—абаронны абшар, на якім ад вякоў разыгрывалася абарона гаспадарства ад нападаў з Усходу, абшар, самая прасторнасьць якога засланяла ядро Рэчыпаспалітай, даючы ей магчымасьць сабраць патрабныя сілы, каб расправіцца з наездам. Падзелены шырокай балоцістай пустыняй надпрыпецкай абшар гэты, а з ім і ўсе шляхі ўсходняга наезду, дзеліцца на два галоўныя тэатры вайны: паўночны і паўдзённы. Гэта дае слабейшаму магчымасьць шукаць разьвязкі на адным з іх, здабываючы—цаной утраты тэрыторыі—час, неабходны на другім. Бо калі хвалі наезду пераліюцца цераз унутраную граніцу гэтага абшару і зьліюцца пад Берасьцем—стратэгічнай сталіцай Рэчыпаспалітай, дык тады генеральная бітва над Віслай мусіць даць адказ на пытаньне: быць, ці ня быць. Гэтак было ў 1794 годзе і адказ выпаў пад Мацеёвіцамі. Гэтак было і ў 1920 годзе: адказ дала варшаўская апэрацыя.

„Часьць сказанага абароннага абшару на ўсходзе, якую мы дзержым сяньня ў сваіх руках, дае нам магчымасьць выкарыстаць геаграфічныя ўласьцівасьці заходніх часьцін былага Вялікага Князьства (Беларуска-Літоўскага!—*Рэд.*), Валыні і Падольля дзеля элястычнай і рухомай абароны і шукаць разьвязкі, пакуль ня будзе загрожана сэрца Польшчы“.

Вось, як прадстаўляецца роль Беларусі ў будучай вайне з пагляду польскага генеральнага штабу: *тут вызначана мейсца дзеля разьвіцьця ваенных падзеяў.*

Зусім гэтак сама глядзіць на Беларусь і другая старана ў спадзяванай аружнай расправе—галоўнае камандаваньне СССР.

Вось, якую вестку падаюць з Менску польскія газэты:

„Главнакамандуючы заходняга фронту Тухачэўскі сказаў на зьезьдзе радаў Беларусі прамову аб стратэгічных пэрспэктывах у выпадку вайны з Польшчай. Паводле заявы Тухачэўскага, Радавая Беларусь — гэта тэрыторыя, на якой адбудуцца першыя ваенныя сутычкі чырвонае арміі з арміямі заходня-эўрапэйскімі. Дзеля гэтага СССР павінена трымаць на Беларусі даволі сільную армію. Паводле слоў Тухачэўскага, Польшча лічыць плян Пілсудскага—паход на Кіеў — абмылковым, і ў будучай вайне галоўны ўдар будзе скіраваны на Радавую Беларусь.

„Усё гэта вымагае вялікае падгатоўкі і дзеля гэтага неабходна стварыць падставы для істнаваньня магутнае арміі. Перад усім трэба пабудаваць казармы для войска і наладзіць прамысловасьць дзеля ваенных мэт.

„Прамову сваю Тухачэўскі закончыў ваяўнічымі славамі: „Калі польскія паны папрабуюць увайсьці на тэрыторыю Радавае Беларусі,—дык гэта будзе іх апошні хаўтурны марш“.

Стаўляючы побач заявы польскага міністра і радавага главнакамандуючага, мы бачым, што яны дапаўняюць адна адну: *калі Польшча возьме ваенную ініцыятыву ў свае рукі, яна нападзе на Усходнюю Беларусь; калі СССР,—дык чырвоныя арміі, як і ў 1920 годзе, пойдуць на Варшаву праз Заходнюю Беларусь.*

Вось і адказ на пытаньне аб ролі і мейсцы Беларусі ў выпадку вайны між Польшчай і СССР: *яна будзе галоўным тэатрам вайны*, бо ад таго, які будзе вынік першых баёў на Беларускай зямлі, акажацца залежным *увесь далейшы ход і аканчальная разьвязка аружнага змаганьня.*

Гэтая няўхільная пэрспэктыва павінна быць пакладзена беларускімі палітыкамі і культурнымі дзеячамі ў аснову ўсяе іхняе працы.

Мінулая вайна паказала, як ваенныя падзеі вынішчаюць край, дзе яны адбываюцца,—паказала, што той, хто ў часе вайны пакідае родны кут, павінен лічыцца з вельмі сумным вынікам гэткага „бежанства“: назад яму ужо *трудна вярнуцца...* І калі гэтак дзеецца з адвечнымі жыхарамі краю, якія ўрасьлі ў родную глебу ўсімі сваімі каранямі, — дык ваенны віхор ужо да-чыста вымятае ўсе наносныя, чужыя гэтаму краю элемэнты, як гэта мы бачылі хаця-бы ў 1920 годзе ў „чыста польскай“ Вільні.

Вось-жа, каб Беларусь пасьля вайны не аказалася „ачышчанай“ ад беларусаў пустыняй, у якой магло-бы разрастацца прынесенае ветрам чужое насеньне,—трэба нам па магчымасьці *паглыбляць свае карані ў роднай зямлі*, трэба ў галоўных цэнтрах яе, дый па ўсенькім краю тварыць свае нязьнішчальныя „пляцоўкі“ — пляцоўкі перад усім *культурныя і эканамічныя*, якія перетрывалі-бы пры ўсякіх зьменах і ў цяжкую часіну былі *падставай дзеля самапомачы* нашага народу. І сяньня больш, чым калі, мы, ня гледзячы на зусім яўныя і пляновыя перашкоды, спатыканыя ў гэткай працы ў Заходняй Беларусі, павінны ўсе сілы свае кіраваць да *самаарганізацыі нашых народных масаў*, да *пераўтварэньня іх у аднаслітную, суцэльную глыбу, якое ня скрышыў-бы ніякі ўдар звонку!*

## Прамова дэп. Ф. Ярэміча.

*на паседжаньні Сойму 30. IV. 1925 у часе дыскусіі аб бюджэце Мін. Унутраных Спраў.*

Высокая Палата!

Колькі разоў чулі мы з гэтае высокае трыбуны ад усіх партыяў—і правых, і левых—аб супакаеньні „Крэсаў“, аб направе і магчымых адносінах і варунках жыцьця. Ня гледзячы на тое, што справу гэтую абгаварывалі вельмі шырока — і ў бюджэтнай камісіі, і тут на пленуме, ды што маем вельмі многа дактароў ад пацыфікацыі „Крэсаў“, бо ажно чатырох, — мы, на жаль, адчуваем толькі адно: іменна, „моцную руку“ і запраўды слабую галаву! А што такое слабая галава, гэта бачым на дзеле, бо нямашака пуцяводнае мысьлі і затым няма ані направы „Крэсаў“, ані ўспакаеньня, як гэта даводзіцца часамі чуць і ў гэтай Высокай Палаце.

Калі будзем гаварыць аб адміністрацыі ў цэласьці, дык сьмею заявіць, што ўва ўсей адміністрацыі Польскае Рэчыпаспалітае пануе анархія. А што гэтая анархія пануе, дык ёсьць на тое дзьве прычыны.

Першая—тая, што Урад абсалютна не зварачвае ўвагі сваей на тое, што мае перад сабой канстытуцыю, што абязаны выпаўняць яе і стаяць на варце літары права. Урад з усім гэтым ня лічыцца, усе пастановы Сойму для Ураду неабавязковы. А калі гэтак паступае Урад і вышэйшая цэнтральная ўлада, дык гэтым самым зьяўляецца неабавязкавымі для паноў ваяводаў і старостаў загады Рады Міністраў. І ўсьцяж паўтараюцца факты, што гаспадаруе ня Урад, ня п. міністар унутраных спраў, а **гаспадаруе ў Польшчы паліцыянт і выўядоўца.** Вось-жа, Панове, калі сёньня чуем усьцяж аб небясьпецы бальшавізму з Усходу, дык даруйце, але я скажу, што ў Польшы бальшавізм ужо істнуе, толькі гэты бальшавізм горшы: бо, як быў тут бальшавізм у 1919 і 1920 гадох, дык была „ўлада на мясцох“, а ў Польшчы сучаснай гаспадаруе паліцыянт і выўядоўца, гаспадаруе Мурашка. Калі Расея мае Дзержынскага, дык мы маем Рутковскага і Божэнцкага, і яны, а ня міністар Смульскі ані Ратайскі, гаспадаруюць у Польшчы.

Гэта адно. Другое-ж—хачу зьвярнуць увагу йшчэ на колькі такіх выпадкаў, якія паказуюць, што пастановы Сойму, ці камісіяў зусім не абязываюць паноў міністраў. Прыпомнім сабе дыскусію ў адміністрацыйнай камісіі аб сьпешнай прапазіцыі аб вынятковым стане. Паны міністры Тугутт і Ратайскі прыйшлі і сказалі: вынятковага стану сяньня не дамагаемся, ня хочам заводзіць вынятк. стану на „Крэсах“. (**Гол.**: і гэтак сталася!).—Не, сталася інакш! Гэта вам толькі здаецца напагляд. Бо мы бачым, што Урад, ня гледзячы на прынятыя камісіяй кольківадцаць пунктаў аб зьмене генералваяводаў ад гадаваньня галубоў і будаваньня фортаў у дварох, аб дапамозе народу ў гаспадарцы і адбудове, ды інш., — Урад гэных пастановаў камісіі дагэтуль ня споўніў. Былі йшчэ далей сягаючыя прапазіцыі меншасьці камісіі,—але ніводнае з гэтых пастановаў Урад не выпаўняў. Наадварот, Урад парупіўся аб тое, каб **на дзеле завясьці вынятковы стан на „Крэсах“**, толькі не хацеў павесіць гэткае вывескі, што **дзеля панаваньня над „Крэсамі“ патрэбен вынятковы стан**, бо гэта блага адбілася-бы на адносінах Эўропы да Польшчы! І што-ж Урад завёў? Перад усім **завёў даразныя суды**, другое—**расквартэраваў войска**, трэцяе — забараніў рабіць усялякія сходы...

Далей, Панове,—гэты Урад дае беларусам і ўкраінцам магчымасьць падаваць школьныя дэкларацыі, але за тое, што нехта адважыцца склікаць двух-трох людзей, дык яго садзяць у вастрог на тэй падставе, што на дзеле істнуе вынятковы стан. Вось, гэта называецца „пацыфікацыя Крэсаў“, паны міністры!

Гаварылі тутака, што дэпутаты займаюць вельмі многа часу пану міністру сваімі інтэрпэляцыямі, даволі часта беспадстаўнымі. Вось-жа пазволю сабе падаць некалькі фактаў. Бо, калі Урад, як я ўжо сказаў, ня лічыцца ня толькі з паасобнымі дэпутатамі, якія падаюць інтэрпэляцыі, але і з пастановамі Сойму, дык само сабой разумеецца, што п. міністар Ратайскі ня будзе лічыцца з нейкім там беларускім ці ўкраінскім дэпутатам! І, калі фактычна чорным на белым даведзена, што ў нас адбываецца катаваньне насяленьня, — дык ён адказвае, што на дзеле надужыцьце не ўстаноўлена, дык ён ніякага загаду ў гэтым кірунку выдадь ня можа. Вось фактычны адказ Ураду! Беларускі Клюб за паўтрацця года падаў нешта каля

# Перамога радыкалаў у Францыі.

У Францыі закончыліся выбары ў мястовыя і гмінныя самаўрады, якія далі вялікую і бясспрэчную перамогу лявіцы—тым самым радыкалам, што стварылі сучасны французскі ўрад.

Аб разьмерах гэтай перамогі можна судзіць з апублікаваных ужо, але яшчэ неаканчальных даных.— Напрыклад: у 379 найвялікшых местах Францыі выбраны: 1 камуніст, 8 сацыял-рэспубліканцаў, 10 кансэрватараў, 13 радыкал-рэспубліканцаў, 42 сацыялісты, 51 левы рэспубліканец, 62 ўмеркаваныя рэспубліканцы і—192 радыкалы... Гэткім чынам блёк лявіцы будзе мець вялізарную перавагу ў самаўрадах краю, ці-што ўсё роўна—наагул у краю, на мясцох.

Гэтым даецца новая вялікая апора — маральная і фактычная—сучаснаму ўраду.

Але гмінныя выбары не абмяжоўваюцца гэткага роду значэньнем, бо — паводле канстытуцыі — маюць вялікае **палітычнае** значэньне. Трэба ведаць, што з прадстаўнікоў самаўрадоў складаецца амаль не цалком **другая палова** французскага парляманту—**Сэнат**. Дагэтуль—у сучасным складзе Сэнату — радыкальны ўрад мае вельмі моцную апазіцыю „нацыянальнага блёку“, якая ў значнай меры паралiжавала палітычную волю і энэргію левага ўраду ў правядзеньні яго радыкальнай праграмы. Дзеля таго іменна і была гэткай бледнай першая праграмная прамова новага прэм'ера Пэнлевэ, ня гледзячы на вялікую прамову яго блёку на выбарах у Сойм. І вось цяпер, пасьля выбараў у самаўрады, можна лёгка заўважыць, як адразу пачаў крапчэць голас ураду, а перад усім голас найбольш актыўнага яго прадстаўніка — міністра фінансаў **Кайо**.

Кайо ў апошніх сваіх прамовах у фінансавай камісіі Сойму пачаў зусім выразна і рашуча дыктаваць сваю фінансавую волю **абедзьвюм палатам**. Ён патрэбаваў ня толькі прыняць яго бюджэт на **гэты год** у найкарацейшым часе, але заявіў, што ў яго ўжо гатовы (?) бюджэт на 1926 г., які павінен быць прыняты ў канцы сёлетняга году. Тады ён патрэбуе ад парляманту (абедзьвюх палатаў) ужо ў пачатку 1926 г. прыняцьця цэлага яго праекту фінансавай санацыі краю.

Відаць,—запраўды французскі левы блёк крэпка дзержыць уладу, калі глядзіць на 2 гады наперад!..

Але ці ўсё гэта дае запраўды якую гарантыю аздараўленьня французскіх фінансаў?

На гэта адказ пакуль-што вельмі кароткі— усяго ў двух словах: **вайна ў Марокко**.

---

Што там казаць—кепска казаў у Парыжу польскі ваенны міністар — гэтулькі скандалу нарабіў і алярму. Але запраўды было-б ляпей, каб не адказываў зусім і мін. замежных спраў. — Толькі да аднаго скандалу дадалі другі.

### Новы прэзыдыум клюбу „Wyzwolenie“.

Пасьля выступленьня лідэра „Wyzwolenia“ п. Рудзіньскага на бюджэтнай дыскусіі ў Сойме, ён сам падаўся ў адстаўку, а галасаваньне „даверыя“ яму дало роўныя лічбы „за“ і „проці“. Тады ўвесь прэзыдыум падаўся ў адстаўку, і быў выбраны новы. — Старшынёй выбраны п. Сталярскі, віцэ-старшынямі — Валерон, Недзельскі, Шафранак і Татарчук.

### У польскай школе...

У кракаўскай гімназіі вучань у часе лекцыяў — пасьля адмовы вучыцеля вызваць яго — пусьціў сабе кулю ў сэрца.

# Загранiцай.

### Зьезд меншасьцяў у Літве.

У Літве, дзе, паводле польскіх газэт, гэтак „катуюць“ і „душаць“ меншасьці, а перад усім палякоў, аднак-жа мог адбыцца зьезд, склiканы парляманцкім блёкам нацыянальных меншасьцяў. На павестцы зьезду стаяла пытаньне аб літоўскай мове ў школах меншасьцяў.

Ці-ж можна лятуцець, каб такі зьезд мог адбыцца ў Польшчы пана Ратайскага і Ст. Грабскага.

### Новы Выканаўчы Камітэт ССРР.

16/V на агульным зьезьдзе Радаў ССРР выбраны новы Выканаўчы Камітэт, складзены з 600 дэлегатаў. У склад яго ўваходзяць, паміж іншымі, Калінін, Рыков, Сталін, Бухарын, Зіновьев, Троцкі і інш. (ПАТ)

### Самагубства Савінкова.

Газэты падаюць паведамленьне „Росты“, што Барыс Савінков, які, як аказываецца, знаходзіўся ў вастрозе, закончыў жыцьцё самагубствам.

Даведаўшыся ад ураду вастрогу, што ня можа спадзявацца на перагляд яго працэсу, Савінков выскачыў з пятага паверху і забіўся на сьмерць. Перад тым ён напісаў пісьмо, у якім кажа, што недаверые да яго радавае ўлады пазбаўляе яго магчымасьці працаваць,—дык лепей ужо сьмерць, як бязьдзейнасьць.

### Сьмяротны прысуд польскім паліцыянтам у С. С. Р. Р.

2 польскія пагранічныя паліцыянты, Рудко і Абрамовіч, якія перайшлі граніцу каля Менску, каб завясьці зносіны з чырвонай арміяй, былі засуджаны на 5 гадоў турмы. Пасьля іх пратэсту адбыўся новы суд, які засудзіў іх на сьмерць.

### Чэмбэрлен аб крўдзе Нямеччыны.

Амэрыканскія газэты апублікавалі мэмарыял, які Чэмбэрлен падаў габінэту яшчэ 20-га лютага. У гэтым дакумэнце англійскі міністар замежных спраў выразна прызнаў, што стварэньнем „данцыгскага калідору“ і падзелам Горнага Сьлёнску Нямеччыне зроблена вялікая крыўда, якая павінна быць у будучыні папраўлена.

### Антыпольская дэманстрацыя ў Усходняй Прусіі.

У Кенігсбэргу—пасьля хаўтураў ахвяр чыгункавай катастрофы нямецкага цягніка ў польскім калідоры — адбылася вялізарная дэманстрацыя з учасьцем больш 2.000 асоб, на якой трэбавалі павароту да Нямеччыны адарваных ад яе і адданых Польшчы чыста нямецкіх зямель.

Гэткія-ж самыя маніфэстацыі адбыліся ўва ўсіх местах Усходняй Прусіі.

### Урачысты ўезд Гіндэнбурга ў Бэрлін.

11 траўня прэзыдэнт Нямеччыны Гіндэнбург прыехаў з Ганновэру ў Бэрлін.

У той-жа дзень прэзыдэнт прыбыў у Бэрлін, дзе на прасторы 6 кілямэтраў разцягнуліся вітаўшыя яго дэлегацыі і публіка — ўсяго лікам больш 200.000 асоб. Усе дэлегацыі былі аздоблены сьцягамі і ўстужкамі былой манархіі... (?) Толькі на ўрадавых будынках былі сьцягі Рэспублікі.

Ніякіх выпадкаў у час прыезду ня было.

Пасьля зламэньня прысягі Гіндэнбург заявіў, што задачай яго палітыкі будзе аб'яднаньне і злучэньне ў адзінае цэлае ўсіх нямецкіх зямель...

### Прысяга Гіндэнбурга.

13-га траўня ў раскошна прыбранай салі парляманту Гіндэрбург прысягнуў, як прэзыдэнт, на вернасьць Нямецкай Канстытуцыі.

Камуністычныя дэпутаты пакінулі салю з крыкам: „Хай жыве нямецкая камуністычная Радавая Рэспубліка“!..

Старшыня парляманту сацыял-дэмакратаў Лебэ сказаў прывітальную прамову. Новы прэзыдэнт, дзякуючы, заявіў, што парлямант і прэзыдэнт—прадстаўнікі сувэрэннасьці народу, у чым — найглыбейшы зьмест Канстытуцыі...

# Беларусь.

Беларусь — Айчызна мая!. Гэта-ж Ты — мая зямля родненька, дзе ўгледзіў сонца і дзе пазнаў сьвет, дзе бацька, браты і дзе матка міла ў Беларускай мове гаварыць вучыла...

Беларусь — Айчызна мая! Ты — гэта вёскі з убогімі хаткамі і мнагалюдныя гарады, сярод палёў зялёных, саджаных ад гадоў у гады. Гэта рэкі і лясы, нівы й сенажаці, дзе песьню надзеі сьпяваюць жаўранкі...

Беларусь—Айчызна мая! Ты—прадзедаў слава, друк Скарыны, нашыя вялікія пабеды і дух у народзе добры, а стойкі.

Беларусь—Айчызна мая! Ты—гэты дух у народзе, што цудам жыве сярод голаду і холаду. Ты—надзея наша, што мінецца пара зьнемажэньня, і радасьць у кождага ў сэрцы зацьвіце, працаю ў старшых, а песьняю ў дзяцей!

Радаўляны, 25. IV. 25. **Я. Ж.**

---

### Заява Штрэзэмана.

Міністар замежных спраў Нямеччыны, Штрэзэман заявіў журналістам, што, калі Антанта патрэбуе, каб Нямеччына ўвайшла ў склад Лігі Народаў да вырашэньня пытаньня аб умове бясьпечнасьці і да эвакуацыі Кельну, дык Нямеччына адкажа адмовай.

### Адозва баўгарскага пасла-селяніна.

Белградзкія газэты зьмяшчаюць адозву баўгарскага дэпутата з сялянскай партыі Велінова—да парлямантаў усіх цывілізаваных краёў сьвету. У сваёй адозве дэпутат „апальнай“ партыі і расказывае аб тых фактах і абставінах у Бацькаўшчыне, якія змусілі яго да эміграваньня з свайго краю на чужыну. Аўтар дае абраз перавароту 9-га чэрвеня, калі цанкавісты захапілі ўладу, і таго тэрору, які з таго часу пачаўся. Паводле Велінова, урад Цанкова з поўнай сьвядомасьцяй выкарыстоўваў „камуністычную небясьпеку“—дзеля таго, каб фізычна зьніштажаць сялянскую партыю, якая зьяўляецца адзінай паважнай і дэмакратычнай сілай у краю. Адозва канчаецца славамі: „я глыбака пераканаены, што дзеяльнасьць ураду Цанкова наносіць страшэнны ўдар самаму прынцыпу парлямантарызму. Я веру, што высокі аўтарытэт усіх парлямантаў можа зрабіць маральны націск, каб зьмяніць страшэнныя варункі палітычнага жыцьця ў Баўгарыі. Адначасна прашу вас усіх, каб дапамаглі вызваленьню з вастрогаў вашых калегаў з баўгарскага парляманту“.

„Высокі аўтарытэт“, „маральны націск“, „дапамагчы вызваліцца братом“. Вельмі пекныя словы, але ўсё гэта—пустыя надзеі.

Сучасныя „браты парляманты“ заткнулі шчыльна вушы ватай і сьпяць сабе моцна на ляўрах на „проценты з сваіх мандатаў“.

### Прысуд у справе выбуху ў Сафійскім Саборы.

11 га траўня скончыўся працэс у справе выбуху ў Саборы ў Софіі.

Званар сабору Загорскі, Фрыдман, Абадыев, Ді-

---

# Натхненьне і рыфмы.

Вясна. Несамавіты прыгарадні лес. Выходзе Паэт. Касматыя валасы, дзівачная арыгінальная вопратка, з аднаго боку вісіць аграмадная бутэлька з надпісам „гарніла“, з другога — бутэлька з надпісам „сасновая вада“, за вухам вялікае гусінае пяро, на носе вялікія круглыя акуляры, пад аднэй пахай вялікая тэка з надпісам „паэзія“, у другой руцэ валоча аграмадны чамадан.

**Паэт.** Так вось тут, здаецца, падхадзячае месца для майго высокага назначэньня: далікатнай працы і надчалавечай місіі. (сядае на пянёк) Охохо, пакутнае жыцьцё паэта! Вось, хочаш-ня хочаш, а ў гэтую перапраклятую сьпякоту валачыся, як марка па пекле, дый шукай натхненьня і рыфмы. А гэта ня так лёгка знайсьці, гэта ня грыб і ня шышка. Вось, глянуў у бок і адразу баравіка нашоў... (нагінаецца бярэць у рукі і адкідае. Нюхае руку) Пху! Або сабака, або сьвіньня згубіла (ацірае руку). Вось, гэную прыгоду душы маеі трэба запісаць у мой дneўнік. (дастае пяро, макае ў чарніла, раскладае папку і піша) „Самы знамяніты паэт Гапук марцовы 13 даты марцовага месяца“... Не, тут дрэнныя абставіны для натхненьня. Няма глыбокага возера, дзе купаліся-б красуньні, і лес зусім ня пахне... (Дастае з чамадана пульвэрызатар і пырскае кругом з бутэлькі „сасновай вадой“). Ух, як пахне сасной—гэта найлепшае паветра для сухотнікаў. Ой, трэба завіхацца, а то вецер разьвеецъ! (сядае і дэклямуе з тэкі, рукамі, нагамі і галавой падтаківаючы словам):

Дзяўчына насіла збаночак
У бары,
У яе задзёрты насочак
Да гары.
Ах, ягады зьбірала
Цап-царап.
На лузе карова мычала
Паміж жаб.
З за куста раптам цыклоп...

(паўтарае) цыклоп, цыклоп... Няма рыфмы, няма натхненьня. Цьфу! (Дастае з чамадана бутэльку з надпісам „Натхненьне 45⁰“ п'ець) О, шэльма, моцная! Цыклоп, цыклоп... Мала (п'ець). Цылкон, поклыя... (путаецца язык. Раптам праразьлівая, скрыпуча-цягучая жаночая песьня) Ах, ах, як чароўна! Пяі яшчэ, яшчэ, німфа лясная... (дырыгуе, узяўшы парасон у рукі).

**Баба** (ўваходзе, зьбірае шышкі) Каго гэта вы парасонам багаслаўляеце?

**Паэт** (дастае бінокль і ўглядаецьа на бабу) Фі. А ну павярніся... фі, ні скаду, ні ладу, ані спераду ані ззаду. Што ты тут робіш?

**Баба.** Работу.

**Паэт.** Якую?

**Баба.** Шышкі ў мяшок зьбіраю.

**Паэт.** А ці ты, дзяруга вясковая, ня ведаеш, што я таксама важная шышка.

**Баба.** Але я не памяняю на яловую.

**Паэт.** Што гэта ты чаўпеш?

**Баба.** Але-ж. А ягомасьць якой трасцай тут займаешся?

**Паэт.** Я самы знамяніты паэт, такіх паэтаў няма, як я,—мяне ніхто ня знае, пішу толькі для сябе. Я шукаю тут натхненьня і рыфмы.

**Баба.** Ды ці-ж Рыфка тут! Яна селядцы прадае на рынку.

**Паэт.** Дзяруга ты вясковая! Рыфма, а ня Рыфка. Вось, можа, ведаеш рыфму да „цыклоп“?

**Баба.** А адчапіся, ты клоп!

**Паэт.** Есьць, ёсьць—ты клоп—знамяніта. Дзякуй за рыфму, а за лаянку, дык я табе зараз пакажу (запісывае).

**Баба.** Гі—гі... ён мне мае паказаць...

**Паэт.** (запісаў) Што-ж гэта я хацеў рабіць ці сказаць?.. Ага! ты, пэўне, ня ведаеш, што я паэт модэрніст, дэкадэнт, сымваліст, футурыст і іст, іст, іст... Мне патрэбны самыя самаграйныя рыфмы, самая пахучае натхненьне, самая вершатычная паэзія. І дзеля таго ты павінна стануць ракам і мычаць, а я падумаю, што гэта карова, і напішу клясычны сонэт. Ну, станавіся. Я ўжо пачынаю. „На чатырох нагах карова стаіць“. Нагінайся кажу... (нагінае Бабу, тая з лаянкай адмахіваецца і ўрэшце пачынае таўчы нахала) Ой-ой, пакінь, баліць. Рыфма ёсьць! (запісвае і чытае) на чатырох нагах карова стаіць. Ой, ой, пакінь баліць. Пад носам яе расьце шчавук... шчавук... няма рыфмы. Ну яшчэ бабка, яшчэ можа выб'еш рыфму, эх, будзе верш! (Баба б'ець, той паўтарае „шчавук“, урэшце бяз сіл валіцца).

**Баба.** Црфу! выбіла ўсё з яго натхненьне. (Выходзе. Паэт якісь час ляжыць. Урэшце чухаецца садзіцца і зрывае парык і акуляры).

**Паэт.** Ну ведаеце іграць на сцэне такога паэтаіста і то горшай пакуты няма, а штож іграць яго ў жыцьці?!. **Л. Р.**

(Заслона).

